ИНТЕРТУР

# ЯПОНИЯ: очевидная и невероятная

*(Продолжение. Начало в №№108,110,111.)*

## Два дня в японской семье

В городе Нагоя живет семья Хакамада. К депутату Государственной Думы России демократке Ирине Хакамаде она не имеет никакого отношения. Два дня из своего двухнедельного турне по Японии я провела у этих великолепных людей.

...На "Тойоте Карола" мы несемся по городу. Несмотря на свои 65 лет Шуи Хакамада лихо управляет автомобилем. Иногда кажется, что мы вот-вот столкнемся с мчащейся навстречу машиной. Улицы в городе узкие, разметка нанесена так, что левая и правая части дороги попеременно сужаются и расширяются.

На передней панели машины небольшой монитор, где высвечивается та часть города, где мы сейчас находимся. Шуи ловко ориентируется, где следует свернуть, чтобы быстрее доехать к месту назначения.

Мы заезжаем в супермаркет, где он делает покупки: одну бутылку сакэ, две бутылки итальянского вина, пакет яблок и рыбу. "Сакэ для вас, — говорит он. — Если не понравится, будете пить итальянское вино". Национальный японский напиток я уже успела попробовать, но, чтобы не обидеть гостеприимного Шуи, промолчала. Сакэ — рисовое вино с запахом белорусского самогона — мне не понравилось.

Семья Хакамада живет в собственном доме на окраине Нагои. Мы долго петляем по улочкам, прежде чем машина останавливается у аккуратненького двухэтажного коттеджа. Частные кварталы Нагои напоминают пригороды Бона: улицы чистые, дома аккуратные и красивые, словно игрушечные. Только японские дома и дворики значительно меньше по размеру, чем немецкие.

На дверях дома моих хозяев висит веночек, внутри которого написано "Welcome to Hakamada". Мы не успеваем открыть калитку, как на пороге дома появляется жена Шуи — Хироко. На ломаном русском она приветствует меня: "Добро пожаловать". Я отвечаю по-японски: "Коничева", что значит "здравствуйте". Больше ни она по-русски, ни я по-японски ничего не знаем.

Мы заходим в дом. У входа стоит несколько пар тапочек. Передвигаться по дому можно только в сменной обуви. В токонаму - комнату для гостей — вообще можно входить только босиком. При входе в туалет тоже надо разуваться, за дверью клозета стоят уже другие тапочки.

Комнаты в доме небольшие. На первом этаже помимо токономы расположены кухня, ванная и гостиная. На 14 квадратных метрах гостиной соседствуют рояль (Шуи — музыкант, преподавал в музыкальной школе), мягкий уголок, сервант, большой телевизор, компьютер, музыкальный центр. Подняться на второй этаж Хироко мне не разрешила. Почему нельзя — не объяснила. Видимо, таковы традиции в японском доме.

На дверях комнаты для гостей висит бумажный листочек. На нем по-английски написано "Комната для Марии", а рядом нарисованы два флага: японский и белорусский — бело-красно-белый. Перед моих приездом, чтобы побольше узнать о Беларуси, Хироко и Шуи купили книгу о странах СНГ, изданную 8 лет назад. В далекой Японии, в тысячах километрах от Беларуси я увидела то, за что в нашей стране можно поплатиться свободой, — истинный белорусский флаг.

...Перед прогулкой по городу Хакамада решают угостить меня настоящей японской едой. Мы заезжаем в ресторанчик "Кайтэн суши". Он представляет собой небольшой круглый зал. Посередине — специальное место для поваров, вокруг — стойка и столики для посетителей.

Мы садимся за столик, наливаем в чашку зеленый чай. Мимо нас по узкому конвейеру движутся японские блюда. На каждой тарелочке — одна порция из двух одинаковых лодочек суши. В качестве бесплатной приправы — соевый соус и маринованный имбирь. Я не успеваю съесть одну порцию, как уже предлагают другую: суши с лососем, креветками, осьминогом, икрой. Когда чувствую, что сыта, и пытаюсь сказать об этом, мне объясняют, что все только начинается: дальше подаются суши с лучшими рыбными вырезками. Накопившиеся пустые тарелки на конвейер никто не возвращает. Когда мы заканчиваем обедать, Шуи зачем-то сортирует разноцветные тарелки и составляет их горкой. Оказывается, цену блюда официант определяет по цвету тарелки.

Вечером в доме Хакамада собираются родственники. Сын Еджи, дочь Сатока с мужем и восьмимесячным сыном, племянники. Перед ужином подают зеленый чай в глиняных пиалах. Хироко предлагает мне примерить кимоно. И почему-то удивляется, когда я утвердительно киваю головой.

*Ну чем я не японка?..*

Гостям приходится ждать нас минут 40. Процесс надевания кимоно очень долгий. Пока Хироко затягивала на мне множество поясов и ленточек, я думала, какие же муки приходилось терпеть японским женщинам, чтобы хорошо выглядеть. Во-первых, кимоно облегает тебя так, что трудно дышать. Во-вторых, приходится носить на себе 4, а то и более метров ткани.

Кимоно — это халат с широкими рукавами, запахивающийся на груди. Немаловажная деталь наряда пояс оби — специальный кусок богатой парчи. Хироко очень туго затягивает его на моей фигуре и сзади завязывает замысловатый узел. "В старину, — говорит она, — по форме узла определяли, к какому сословию принадлежит японка. Теперь все зависит только от твоего вкуса".

Хозяйка "моего" кимоно Сатока. Наряд шили к ее совершеннолетию. "Хорошее кимоно, — объясняет Хирока, — стоит очень дорого, несколько тысяч долларов. Материал для него обычно ткут и расписывают вручную, используя присыпку из золотых и серебряных порошков. Сшить парадное кимоно возьмется только хороший мастер: необходимо подобрать куски ткани так, чтобы узор органично перетекал со спины на грудь и рукава и создавалось впечатление, что это не просто одежда, а что-то большее".

...Увидев меня в японском "платье", все приходят в восторг. Я, как японская топ-модель, позирую перед камерами.

На ужин Хироко подает сэндвичи, курицу, рис, овощи. Потом суши, приготовленные в домашних условиях: вместо рисовых лодочек обычная каша с овощами и кусочки сырой рыбы. На десерт — дыню и кекс, который специально для белорусской гостьи испекла Сатока. Фрукт принес кто-то из гостей. Дыня, перевязанная золотой ленточкой, лежит в цветной коробке. "Дыня в Японии — королева фруктов", — объясняет Хироко.

За столом мы разговариваем обо всем. Японцы удивляются, что я так много знаю об их стране. Извиняются, что о Беларуси им известно немного. "В Украине есть футболист Шевченко, он играет в итальянском "Милане", — говорит Еджи. - А в Беларуси, кто есть?".

Семья Хакамада представляет средний класс Японии. Тот класс, который никак не может сформироваться у нас. Хироко работает в госпитале, в компьютерном отделе. Шуи — бывший учитель. По японским меркам, они всегда получали среднюю зарплату. Но при этом имеют частный дом, новую машину, смогли дать детям высшее образование. А учеба в японских университетах стоит немало, в среднем — 7 тысяч долларов в год. Никто из них не жалуется на жизнь, на правительство...

Гости расходятся заполночь. Хироко проводит меня в мою комнату. Традиционно во многих японских домах до сих пор нет кроватей. Я укладываюсь на матрац, положенный на пол. "Завтра воскресенье, можно поспать подольше, до 7 утра", — говорит она и поднимается к себе.

...На вокзал меня провожают Хироко и Шуи. Прощаясь, мы обещаем писать друг другу. У Хироко на глазах появляются слезы. Я заметила, что японцы по отношению к иностранцам вежливы, но равнодушны. Японцам присущи коллективизм, национальная духовная общность, а иностранцы для них как бы остаются за гранью интереса. Но совсем другие чувства испытываешь, когда живешь в японской семье.

...Я показываю билет контролеру и поднимаюсь по эскалатору. Хироко и Шуи долго машут мне на прощание рукой.

**Мария ЭЙСМОНТ.**
**Минск—Токио—Нагоя.**
*(Продолжение следует.)*

ЛЁС

# Споведзь Апанаса Пятровіча

**За плячыма Апанаса Пятровіча Цыхуна больш за дзевяць дзесяткаў гадоў. Сын зусім не заможнага, па тагачасных заходнебеларускіх мерках, селяніна з вёскі Кунцаўшчына, што непадалёк ад Гродна, навучэнец Гродзенскай польскай настаўніцкай семінарыі, "цэляўнічы" (наводчык) у дывізіёне лёгкай артылерыі, які абараняў Варшаву ў верасні 1939 года, збеглы палонны, вясковы гаспадар, чырвонаармеец — удзельнік баёў пад Беластокам, пасляваенны настаўнік, дырэктар вясковых школ, інспектар Гродзенскага райАНА, заслужаны настаўнік Беларусі, бацька трох сыноў, пчаляр, скрыпач-самавучка, а перадусім руплівы краязнаўца, збіральнік фальклору, аўтар кніг "Легенды і балады Гродзеншчыны", "Акадэмік з вёскі Лаша. Я.Ф.Карскі", "Скарбы народнай мовы", "Песні з народных глыбіняў" і іншых выданняў — усё гэта адзін чалавек: Апанас Пятровіч Цыхун.**

Непрыкметна ляціць час нашай доўгай размовы ў невялічкім дамку, які Апанас Пятровіч набыў яшчэ перад вайной, на ціхай вуліцы Бертэля ў Гродне. Гаспадар дастае з куфэрка свае ўзнагароды, паказвае польскі медаль за ўдзел у абароне Варшавы ў 1939 годзе, які яму ўручылі праз 50 гадоў. "Мог бы і раней атрымаць, ды спаліў, калі ў Заходняй Беларусі ўсталяваліся Саветы, адпаведныя паперы — баяўся, што новыя ўлады абвінавацяць у нелаяльнасці, у польскасці. Хоць заўсёды, нават у час вучобы ў польскай настаўніцкай гімназіі, дзе беларусаў не шанавалі, цвёрда трымаўся сваіх беларускіх, праваслаўных каранёў. А медалём ганаруся. Прыйшлося, праўда, аднаўляць паперы праз польскія архівы ўжо ў новы час".

З куфэрка выкладваюцца на стол і іншыя ўзнагароды Апанаса Пятровіча, ветэранскія пасведчанні: польскае — ветэрана другой сусветнай вайны, і савецкае — удзельніка Вялікай Айчыннай вайны. "Савецкае пасведчанне атрымаў пасля польскага".

### Варшава. Другая сусветная...

— Закончыць настаўніцкую семінарыю мне не давялося. З чацвёртага курса мяне прызвалі ў армію, адтэрміноўкі не далі. Абавязковую ваенную службу праходзіў у Вільні, у "памяровай" артылерыі. У нашай трэцяй батарэі служылі хлопцы розных нацыянальнасцей: палякі, беларусы, літоўцы, яўрэі і нават адзін цыган.

Пасля вайсковай службы прыйшлося заняцца гаспадаркай, бо на настаўніцкую працу ўладкавацца па розных прычынах было немагчыма. Але цывільнае жыццё было нядоўгім. У ліпені 1939 года мяне як рэзервіста прызвалі на зборы ў Сувалкі, у другі дывізіён 29-га палка лёгкай артылерыі. На зыходзе лета наш дывізіён знаходзіўся недалёка ад Гданьска, дзе 1 верасня 1939 года і застала нас вайна. Ноччу ледзьве не трапілі ў нямецкае акружэнне, але выравіліся і 2 верасня дабраліся да Аўгустава. Там пагрузіліся ў вагоны, і цягнік рушыў у накірунку Гродна. Па дарозе нас некалькі разоў атакавалі фашысцкія пікіроўшчыкі. Раніцай мы былі ўжо ў Гродне, адкуль наш цягнік накіраваўся на Беласток і Варшаву. Памятаю, як радасна сустракала нас Варшава, як віталі нас на вуліцах жыхары сталіцы, жадалі сувальскім ваякам перамогі над лютым ворагам, які напаў на Польшчу...

У Варшаве дывізіён на чале з капітам Шныгерам і нашай батарэяй, якой камандаваў падхарунжы Моматаў, заняў абарону перад фартамі "Бэма". Мы выконвалі функцыю "запора пшэціўчолгава мяста Варшавы" — супрацьтанкавага заслона горада Варшавы. На гэтай пазіцыі, дзе мы трымалі абарону да апошняга часу, пакуль не капітулявала сталіца, нам давялося перажыць страшныя налёты нямецкай авіяцыі. Супрацьпаветранай абароны амаль не было. Мы бачылі толькі два польскія "мысліўскія самалёты", якія падымаліся ў паветра пасля фашысцкіх налётаў. Гітлераўская авіяцыя бамбіла Варшаву беспярапынна, сталіца была зруйнавана. Аднак трымалася, не падала духам. Разам з намі, вайскоўцамі, былі і цывільныя добраахвотнікі. Мне запомніўся адзін малады хлопец, які прыйшоў да нас і на маіх вачах загінуў. Была з намі і студэнтка універсітэта, якая з карабінам у руках абараняла родную сталіцу. Запомніўся сівы, пажылы чалавек, казалі, што адвакат. Ён, уладкаваўшыся з кулямётам на трэцім паверсе недабудаванага дома, днямі і начамі паліваў немцаў свінцовым градам.

17 верасня мы атрымалі паведамленне аб пераходзе Чырвонай Арміяй савецка-польскай граніцы. Нам казалі, што яна ідзе на дапамогу польскаму войску. Толькі пазней даведаліся, што дапамогі чакаць дарэмна. 29 верасня Варшава капітулявала, але асобныя вайсковыя падраздзяленні, у тым ліку і наш дывізіён, не складалі зброі. Толькі праз некалькі дзён капітан Шныгер у Лазанкоўскім парку ў апошні раз выстраіў нас, што засталіся ў жывых, у адну шарэнгу, сказаў развітальную прамову і пацалаваўся з кожным жаўнерам.

Лагер ваеннапалонных, спецыяльна падрыхтаваны немцамі для абаронцаў Варшавы, дагэтуль успамінаю з жахам. На працягу першага тыдня палону фашысты не далі нам нічога есці. Не далі нават вады. Спалі мы пад адкрытым небам. А наступілі халодныя ночы, часта з дажджамі, мокрым снегам. Не давалі спакою вошы, здзекаваліся эсэсаўцы.

Праз некаторы час мне і іншым палонным, якія паходзілі з Заходняй Беларусі, пашанцавала выбрацца з гэтага пекла. На падставе нямецка-савецкага пагаднення першы эшалон з ваеннапалоннымі быў адпраўлены ў СССР. Нас у таварных вагонах, па 85 чалавек у кожным, даставілі ў Брэст, дзе нас сустрэлі браты — савецкія вайскоўцы. Правялі рэгістрацыю, падчас якой чамусьці ўважліва аглядалі нашы рукі. А яны ў мяне, нягледзячы на цяжкую з дзяцінства сялянскую працу, зусім не пралетарскія — тонкія, далікатныя. Але ўсё-такі рэгістрацыю прайшоў без перашкод. Пасля гэтай працэдуры нам сказалі, што наш цягнік пойдзе на Гродна, дзе нас павядуць у баню, а затым пусцяць на волю, да сваіх сем'яў.

Аднак сярод палонных пайшлі чуткі, што нас з аднаго лагера павязуць у другі, савецкі. Таму да Гродна я не даехаў, і выскачыў з вагона на прыгараднай станцыі "Ласосна", што недалёка ад дома, дзе ў той час жыла мая жонка з сынам.

Так пачалася маё мірнае жыццё. Новае жыццё. Паўсюдна ў Заходняй Беларусі паўставалі школы, а настаўнікаў не хапала. І я атрымаў магчымасць настаўнічаць у Лашанскай сямігадовай беларускай школе. Там, дзе я вучыўся за польскім часам — толькі тады, зразумела, не ў беларускай, а польскай школе.

У нашай сямігодцы з'явіліся і настаўнікі з Усходняй Беларусі. Дарэчы, значна бяднейшыя за нас, заходнікаў. Яны сталаваліся ў нас. Узгадваю, як сам вадзіў новага настаўніка да шаўца і краўца, як дапамагаў яму справіць прыстойныя чаравікі і касцюм.

Але зноў наступіла змрочная пара.

### Беласток. Вялікая Айчынная...

Добра падрыхтаваныя артылерысты спатрэбіліся Чырвонай Арміі, і мяне прызвалі на 45-дзённыя ваенныя зборы. 22 чэрвеня 1941 года вайна застала мяне за Беластокам, каля паселішча Асавец. Памятаю, у апошні дзень перад самай вайной камандзіры праводзілі конкурс на лепшага запявалу. Я быў запявалам атрада рэзервістаў, які складаўся з жыхароў былой Заходняй Беларусі. Да дванаццатай гадзіны ночы маршыравалі мы строем і спявалі паходныя песні. А голас мне добра паставілі яшчэ ў настаўніцкай семінарыі. Таму не дзіўна, што менавіта я быў адзначаны як лепшы запявала, асабліва за хвацкае выкананне "Тачанкі".

Пасля конкурсу мы, стомленыя, толькі заснулі ў палатках, як раптам здрыганулася зямля, пачуўся пякельны свіст. На наш лагер паляцелі нямецкія бомбы. Загучалі каманды, загудзелі матory нашых цягачоў і танкетак...

Артылерыя выехала з лагера і заняла абарону за лесам. Мне камандзір загадаў быць пры тэлефоне ў штабе, які знаходзіўся ў зямлянцы, даў сувязнога байца. Тут я і правёў першы дзень вайны. Пасля абеда сувязь абарвалася. Мы не ведалі, што рабіць. Толькі пад самы вечар з'явіўся ў зямлянку сяржант і сказаў, каб мы жывей уцякалі, таму што немцы прарвалі абарону. Мы з сувязным выскачылі з зямлянкі і давай бегчы, але над намі загудзелі нямецкія самалёты. Адзін з іх пачаў паліваць на нас. Я з тэлефонам упаў у невялікае паглыбленне на ўзвышшы, што мяне і выратавала. А сувязны загінуў.

Не ведаючы, куды падацца, я выйшаў на гасцінец і ўбачыў некалькі нашых пагранічнікаў. Разам і дабраліся да Беластока, па дарозе да якога нас абстралялі з бункераў палякі.

У Беластоку адшукаў камендатуру, вакол будынка якой сталі і ляжалі параненыя байцы з ушчэнт разбітых вайсковых часцей. Даведаўся, што 3-я і 10-я савецкія арміі і сам Беласток знаходзяцца ў нямецкім акружэнні. Я знайшоў ваеннага каменданта, маладзенькага лейтэнанта, і суткі выконваў у яго абавязкі пісара. Але на другія суткі, ноччу, лейтэнанта ў камендатуры я не ўбачыў. І зразумеў, што немцы вось-вось увярвуцца ў горад. Трэба было ратавацца, каб ізноў, як у трыццаць дзевятым, не трапіць у палон.

Мне з адным байцом удалося выбрацца з горада, дабрацца да глухога хутара. Гаспадар аказаўся беларусам. Ён пакарміў нас жытняй запаркай, даў па лусце хлеба, дазволіў пераначаваць у хляве. А раніцай мы рушылі ў небяспечную дарогу. Сябра па няшчасці — сваёй, а я — на ўсход, да родных мясцін. А гэта — шлях у 80 кіламетраў. Асцерагаўся вялікіх дарог, па якіх беспярапынна ішлі нямецкія машыны, дзе жытам, дзе лесам прабіраўся — і дайшоў. Спачатку да вёскі Канюхі. Затым да Індуры, дзе здалёк убачыў на тэлефонных слупах некалькі павешаных гітлераўцамі мясцовых яўрэяў. Ад Індуры ўжо зусім было блізка да Круглікаў, дзе жыў мой швагер Антон Рукша. Ён мяне і прытуліў на першы час.

Трэба было неяк жыць. Дапамагаў швагру жаць жыта. Пасля перабраўся ў вёску Свіслач, да бацькоў жонкі, але ў іх было небяспечна — падкусваў солтыс. Некаторы час жыў у Гродне, у брата Івана.

Пасля вызвалення Гродна ад нямецкіх акупантаў мяне ізноў прызвалі ў Чырвоную Армію. Разам з братам Іванам, які затым у жорсткіх баях пад Кёнігсбергам быў цяжка паранены — застаўся без нагі. А я, як настаўнік, хутка атрымаў вайсковую бронь. І вярнуўся да любімай настаўніцкай працы.

Дарэчы, і першыя пасляваенныя гады на Гродзеншчыне былі не зусім мірнымі. У вёсках і мястэчках гучалі стрэлы, гінулі людзі ад куль тых, хто хадзіў па лясах. Небяспечнай была ў тыя часы і мая інспектарская служба ў райАНА — амаль кожны дзень у дарозе, дзе іншы раз трапляў у такія пасткі, што вайну ўзгадваў. І не толькі 22 чэрвеня 1941 года, але і верасень 1939 года... А ўвогуле, да сённяшніх ацэнак мінулага стасуецца, здаецца, вельмі трапная прымаўка, якую я аднойчы запісаў у адной з вёсак у наваколлі Гродна: "Бачыць вока далёка, а розум яшчэ далей".

І Апанас Пятровіч іранічна ўсміхнуўся, быццам хацеў спытаць: "А ці трэба тлумачыць гэты людскі досціп?".

**Вячаслаў БАЛАМУТ.**

**На здымку:** *Апанас ЦЫХУН, навучэнец Гродзенскай польскай настаўніцкай семінарыі (1932 год).*

**P.S.** *З гэтым здымкам звязана сумная гісторыя. Апанас Цыхун уклаў яго ў ліст, які даслаў у Ленінград свайму роднаму дзядзьку па маці палкоўніку Чырвонай Арміі Максіму Фёдаравічу Краўцэвічу. Максім Фёдаравіч займаў у той час значную пасаду на артылерыйскім палігоне, кіраваў выпрабаваннямі новых узораў зброі. І ліст, перш чым дайсці да адрасата, трапіў у НКУС. А там, глянуўшы на форму Цыхуна, палічылі яе вайсковай. Максім Краўцэвіч атрымаў традыцыйны для шпіёнаў і ворагаў народа тэрмін — дваццаць пяць гадоў. Праз гадоў дзевяць, праўда, выпусцілі. "Из-за твоей "морды" отсидел", — горка жартаваў пазней дзядзька...*

ДАЙДЖЕСТ

### Шарона подталкивают к войне. Он с этим почти согласен

*Ариэль Шарон.*

Палестинские террористы застрелили двух израильских поселенцев на западном берегу Иордана. Представители армии Израиля заявили о многочисленных фактах обстрелов палестинцами еврейских поселений. В то же время правительство Ариэля Шарона все больше подвергается осуждению со стороны консервативной оппозиции за бессилие перед лицом надвигающейся палестинской угрозы.

Около ста человек, сопровождавших тело убитого накануне 35-летнего Дэнни Ехуды, яростно выкрикивали перед резиденцией Шарона: "Хватит сдержанности!" "Сто дней любезности прошли", — заявила израильскому телевидению лидер израильских поселенцев на западном берегу Иордана Даниэла Вейсс. Она также подчеркнула, что подобная искусственная сдержанность, которая угрожает жизням израильских поселенцев и существованию Израиля вообще, в то время как опасность вражеского нападения постоянно возрастает, ставит под сомнение все моральные основы существования нынешнего израильского правительства.

**"Рейтер".**

### Пакистан будет развивать стратегические вооружения?

Если американские санкции в отношении Пакистана не будут смягчены, то правительство будет вынуждено сделать основную ставку на развитие ядерного потенциала государства. Об этом сообщил на проходящей в Вашингтоне конференции по вопросам распространения опасных технологий министр иностранных дел Пакистана Абдул Саттар. "Санкции лишают Пакистан не только экономической помощи и военных поставок, но даже запчастей к закупленному нами оборудованию", — подчеркнул он. Если какая-либо страна не может положиться в своей обороне на обычные виды вооружения, ей приходится "в большей степени полагаться на стратегическое сдерживание", — сказал министр.

В настоящее время вопрос о санкциях против Пакистана находится на рассмотрении администрации Джорджа Буша.

**"Ассошиэйтед Пресс".**

### В Латвии осквернен памятник советским воинам

Латвийские националисты осквернили памятник советским воинам на братском кладбище в Елгаве. Варвары надругались над единственным в стране памятником военной медсестре. Камнями разбита голова пятиметровой статуи, повреждены вазы с цветами у подножья обелиска.

Между тем в Латвии еще не утих скандал, вызванный очередным осквернением монумента освободителям Латвии от немецко-фашистских захватчиков в Риге, на котором на прошлой неделе было написано красной краской на латышском языке "Русские — вон" и изображена свастика.

**РИА "Новости".**

### Телефонные хулиганы обозвали Блэра владельцем паба

Резиденцию премьер-министра Великобритании захлестнула волна телефонных звонков, организованная неизвестными хулиганами. Они отправляли на сотовые телефоны лондонцев сообщения, где просили перезвонить и "попросить Тони". Одна из пострадавших — 17 летняя студентка Эшли Беннетт — рассказала, что получила сообщение, подписанное ее другом, где тот просил ее позвонить "в один из пабов" и говорил, что "если меня там нет, то попроси Тони, владельца бара". "Я позвонила и в конечном счете узнала, что это офис премьер-министра и мой номер будет передан полиции. Я была в шоке", — сообщила Беннет.

**"The Sun".**

### Кретьен недоволен канадскими рыцарями

Премьер-министр Канады Жан Кретьен выступил с резким протестом по поводу того, что Британия удостоила рыцарского звания двух канадских граждан. Он выразил свое недовольство в телефоном разговоре с премьером Великобритании Тони Блэром, а затем направил ему письмо, в котором задает Блэру вопрос, почему тот не удосужился принять во внимание законы близкого партнера Великобритании по Содружеству.

Канадские законы запрещают гражданам этой страны принимать почетные титулы от иностранных правительств. Рыцарского звания в официальный День рождения королевы были удостоены миллиардер Терри Мэтьюз, выходец из Уэльса, и вице-канцлер Королевского университета в Белфасте канадец Джордж Бэйн. Терри Мэтьюз — владелец курорта Celtic Manor под Ньюпортом. До прошлого года он владел и телекоммуникационной компанией, которую у него купил Alcatel.

**"Би-Би-Си".**

### Мусульмане пытаются восстановить мечеть в Баня-Луке

Несколько сотен боснийских сербов вступили в столкновения с полицией в городе Баня-Лука, пытаясь помешать началу восстановления в городе мечети XVI века, которая была уничтожена в ходе боснийских войн. Около 700 сербов начали освистывать 200 мусульман и нескольких представителей иностранных государств, которые под защитой полиции прибыли в центр города, для того чтобы положить начало восстановлению мечети.

Когда глава боснийских мусульман Мустафа Черич и президент боснийских сербов Мирко Сарович заложили в основание мечети камень, символизирующий примирение, толпы сербов начали забрасывать полицейские кордоны всем, что попадется под руку. Полиция ответила водометами и слезоточивым газом. Около десятка сербов были задержаны. Пострадали 12 полицейских.

**"AFP".**

ЧЫТАЧ ПРАЦЯГВАЕ РАЗМОВУ

# Не сядзіце, як мышы пад венікам...

З задавальненнем прачытаў баявы артыкул Аляксандра Альхавога "Властители дум, кому вы подчинились?" ("Народная воля", 23 мая 2001 года). Аўтар вельмі прамы, адкрыты і сумленны чалавек. Ён не церпіць бравады, жанглёрства, самалюбства, амбіцый, з якой іншы раз умеюць даць пад дых пісьменнікі брату-журналісту. А ён, журналіст, у цяжкіх умовах. Асабліва ў незалежнай газеце. І мае права на памылку пры роздуме пра наша гаротнае жыццё. І калі робіць промах, збіваецца з прамой дарогі або выпадкова накіруе піку не па назначэнні, просіць прабачэння ў чытача. Праз газету ўказвае на сваю памылку, трывожыцца, ушчувае сам сябе. Так часта паступае "Народная воля". І таму ёй вераць, з ёй сябруюць, яе выпісваюць і чытаюць. Бо тут праўда жыцця, якая б яна ні была суровая. Яна патрэбна людзям, яна яго духоўны і жыццёвы хлеб інфармацыі. А ўрадавыя газеты абыходзяць вострыя вуглы будзённага жыцця, пяюць дыфірамбы чыноўнікам, якія завялі Беларусь у балотную багну. Абалваньваюць народ, вешаюць локшыну на вушы, свішчуць пра заможнае жыццё, якое з кожным годам пагаршаецца ў нашай краіне.

Альхавы не пісьменнік, а грамадзянін у поўным сэнсе гэтага слова. Я моцна цісну яму руку, жадаю дабра і здароўя за тое, што ён шчыра выказаў свае заўвагі, не пабаяўся напісаць тое, што думае пра нашых пісьменнікаў, большасць якіх не маюць грамадзянскай пазіцыі, не сталі глашатаямі, не клічуць народ да свабоды і волі, сядзяць, як мышы пад венікам. Паўтысячы адукаваных і творчых інтэлігентаў у Беларускім саюзе пісьменнікаў! Якая сіла, якая грамада, якая армія! Ці б'юць яны ў званы — літаратурныя? Б'юць, ды часта рыкашэтам. Выпускаюць некалькі часопісаў, штотыднёвік "Літаратура і мастацтва". Аднак там, як і ў часопісе "Полымя", у апошнія гады няма сапраўды вострых праблемных матэрыялаў, публіцыстыка затухла. Калі яе душыць уладная цэнзура, то чаму пісьменнікі маўчаць, забываюць пра свае абавязкі, не заяўляюць пратэст у незалежнай прэсе, не выходзяць дружна на дэманстрацыі, шэсці? Чаму схілілі галовы, маўчаць? Мо, баяцца турмы, пастарункаў, гнеўнага голасу Лукашэнкі? Ці баяцца страціць пасады на газетнай і часопіснай ніве? Пэўна, апошняе ім даспадобы. Хай апазіцыя выходзіць на вуліцы мітынгаваць, а пісьменнікі... пачакаюць. Нават апавяданні пра сучаснае гаротнае жыццё не друкуюцца, што ўжо казаць пра аповесці, раманы, крытычныя артыкулы. Ды яшчэ дазваляюць ва ўрадавай прэсе, па тэлебачанні і радыё ганьбіць імя Васіля Быкава — самага прагрэсіўнага пісьменніка Беларусі, які праўдзіва паказаў сапраўдны твар вайны, партызанскага змагання. Ён і цяпер глашатай і змагар, баявы салдат рэвалюцыйнай перабудовы. Кліча нас на змаганне з дыктатарскім рэжымам, кажа праўду ў вочы. Таму вораг для чыноўнікаў, а той, хто друкуе бесканфліктныя творы, — дабрадзей. Прыклад таго — апошнія аповесці ў часопісе "Полымя".

Цытую на памяць маналог аднаго героя: "Калі распусціць калгасы, то наступіць голад. Так і прэзідэнт думае". Божа мілы, якое адсталае мысленне. І калі б толькі ў героя аповесці! Адчуваецца такое мысленне і ў аўтара твора, якога ў пасляваенны час мы так хвалілі, абмяркоўвалі, лічылі сваім духоўным настаўнікам. Так і хочацца сказаць: пабойцеся Бога, спыніцеся. Завітайце ў суседнюю Літву, дзе яшчэ ў 1992 годзе распусцілі калгасы. Пагутарыце з людзьмі, зайдзіце ў крамы, зірніце на цэны. Кіло сыру там каштуе адзін долар, а ў нашым "беларускім калгасе" — два і нават болей. Там табе прададуць 16 гатункаў масла сметанковага і 3 гатункі смятаны рознай тлустасці — 15, 30 і 40 працэнтаў. Больш за двесце гатункаў каўбас. А колькі рознага сыру? І пенсія там у тры разы вышэй за беларускую. І тым, у каго на ашчадных кніжках былі грошы, выдалі па ўкладзеным намінале. Вопыт Літвы яшчэ будзем вывучаць.

Я не вінавачу Вольгу Іпатаву, што яна так пакрыўдзілася на журналістку Марыну Коктыш, я ёй спачуваю, бо яна ў сэрцы жадае дэмакратыі, хоча, каб пісьменнікі пісалі праўду, ды не можа пераканаць "бацьку" ў важнасці адкрытай, аб'ектыўнай журналістыкі, у важнасці бесцэнзурнага слова, у важнасці праўды, без якой мы глухія і сляпыя. Людзі вераць Лукашэнку таму, што яму ніхто не пярэчыць, ніхто не можа падняць галавы на якой-небудзь нарадзе ці на так званым Усебеларускім з'ездзе і сказаць праўду ў вочы. Або ў знак пратэсту пакінуць залу, дзе прэзідэнт можа цыкнуць на начальніка, паабяцаць "адарваць галаву" за вытворчыя промахі. Баяцца застацца без хлеба, без месца ля карыта.

Не вінаватая Іпатава і таму, што пісьменнікі, паэты не маюць сваёй трыбуны на радыё, тэлебачанні, у газетах і часопісах. Яе не слухаюць, як і іншых пісьменнікаў, не дазваляе рэжым улады казаць народу праўду. Што рабіць? Як быць? Тут гамлетаўскае пытанне, спадарыня Іпатава. Ці паставіць яго Саюз беларускіх пісьменнікаў — ад гэтага будзе залежаць ваш аўтарытэт і аўтарытэт усёй пісьменніцкай раці.

А чаму б не падняць голас у знак пратэсту супраць ахайвання азаронкамі, зімоўскімі, казіяткамі, чайкамі і іншымі, не пабаюся сказаць, халуямі ўлады. Чаму яны павінны раздуваць варожасць, падносіць брахню народу замест праўды, а пісьменнікі маўчаць, згаджаюцца з хлуснёй і небыліцамі? Альхавы правільна ўздымае пытанне, што многія пісьменнікі анямелі, маўчаць, не маюць прынцыповай грамадзянскай пазіцыі, не выказваюць дум і спадзяванняў народа.

Не, не на дробязі трэба звяртаць увагу, а на сітуацыю, у якой апынулася Беларусь, на тое, што чакае нашых дзяцей, унукаў. Чаму не чуваць вашага голасу, майстры слова?

**Анатоль ШАПЯЛЕВІЧ,**
**жыхар г.Рагачова.**

